# ДУБРОЎСКІ

# НАСТРОЙ №91

КРАСАВІК-ТРАВЕНЬ 2006

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## СУПЕРМЭН І ПІГМЕІ.

От і надышоў жудасны час расплаты.Усіх тых, хто спрабаваў засумнявацца ў замацаванні навечна прэзідэнцкага крэсла пад палойкамі Рыгоравіча чакала расправа. Сьмелага не па кашальку Казуліна зьвязалі і шпурнулі ў халодную, дзе яму доўгенька давядзецца чакаць працэдуры суду.

Мілінкевіча, Вячорку,Калякіна ды іншых самадзелак таксама кінулі на нары асвойваць жыццёвую прастору і зьбіраць матэрыялы на кнігі пад назовам «Мая барацьба».

Хлопцаў і дзевак калібрам драбнейшых кідалі і шпурлялі пакункамі.Такі фінал сьпецаперацыі «Выбары».

Казаў жа Рыгоравіч брэсцкім студэнтам, маўляў, вы хоць два гады шукайце, а лепшага за мяне малайца не знойдзеце.Гэта як быццам Рыгоравіч супермэн-звышчалавек, а ўсе астатнія, па ягонай тэрміналогіі «вашывыя блохі».Як тутака не ўспомніць Яраслава Гашка зь ягоным Швейкам, дзе таксама былі дзівосныя заалагічныя стварэнні. Кухвайкі гораду і вёскі могуць быць задаволены: іхні каханчык кіравацьме імі надалей, да самай іхняй сьмерці.

Кухвайкі не ведаюць Інтэрнэту, кампутара, моваў, таму ім мо і даравальна невуцтва.

Але хто трохі граматнейшы, той не можа не жахнуцца, бачачы як расьце цывілізацыйная, культурная, тэхналагічная, сацыяльная бездань між нашай краінай і астатнім, збольшага дэмакратычным, сьветам.

Ды чаму дзівіцца? Ясна ж было сказана: «Я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду».

Так што будзем шчэ пяць год валачыцца за А.Р.Лукашэнкам? Ці ж варта?

Бачылі па тэлевізары павучых, што пасьля злучкі жруць самцоў? Так і тут.

---

## БЯЗЬЛІТАСНЫ БАЛЕСЛАЎ.

Наколькі пусьцечы і помсьлівыя лукашысты відаць хоць бы з Шацілак.Пад час выбараў нехта Тэльман Масьлюкоў, зьбіраючы подпісы за А. Мілінкевіча,паставіў планшэт з ягонай біяграфіяй і фота, каб людзі мелі хоць якое ўяўленне пра кандыдата. Выбарчае заканадаўства не абмяжоўвае права агітацыі і прапаганды. Іначай, што гэта за выбары? Але лукашысцкая ўлада, якая ўзурпавала права падпраўляць, тлумачыць, інтэрпрэтаваць і ажыццяўляць закон борзьдзенька ўвяла рэзервацыі для агіта-цыі.Праходзячы паўз той агітацыйны пікет Балеслаў Пірштук,намесьнік А. Лукашэнкі ў Шацілках, і неўпадабаўшы гэны Пірштук той планшэт праз тыдні тры выклікае ён начальніка тутэйшае паліцыйнае сілы і патрабуе пакараць з усяе судова-паліцыйнае моцы гэнага Тэльмана Масьлюкова.Увогуле, справа яечнага шалупіння не была варта, але ж так хацелася ўшчыкнуць! І хоць шацілкаўскім паліцыянтам няёмка было займацца глупствам, але як спраўныя стражнікі яны дамовіліся з Тэльманам Масьлюковым і суддзя міласьліва і несправядліва засудзіла яго не на надта вялікую суму.От і паагітуй пад час выбараў!

Не, пэўне не пабачыць сёлета бязьлітаснаму да ворагаў рэйху і фюрэра сп. Балеславу Пірштуку Нямеччыны.

## ШАРВАРКА ПАВЯТОВАГА МАШТАБУ

Рэндзіць і скуголіць па развалу Савецкага Саюзу стала сталай звычкай тутэйшай акупацыйнай улады.(Можна падумаць, што цяперашнія панкі ў тым савецкім саюзе нешта значылі і нешта вырашалі!)І каб латвей сыпаць соль на раны смуткоўцам і тыцкаць мордай у савецкую твань маладзейшае пакаленне рэжым аднавіў і дбайна дбае пра адзін з колішніх савецкіх рытуалаў- камуністычны суботнік.Суботнік- гэта як нагода выдраць з народу халяўныя грошы, гэтак і патрэніраваць ягоную адданасьць і пакору нахабнай уладзе.

Мы памятаем, што гэтая ганебная практыка прымусовай бясплатнай працы была зьліквідавана ад 1991 па 1995 гады, але была адноўлена зацятым саветчыкам Лукашэнкам. Крывадушнасьць і беззаконне правядзення г. зв. «суботнікаў», гэтага рудымента і атавізму савецкай сістэмы відаць і з таго, што багата дзе працоўных не гоняць на шарварку калупаць пракаветнія каўляшы на дарозе, а папросту забіраюць грошы з заробку. Што гэта, як не форма сярэднявечнага чыншу?

Суботнік- гэта абраза гонару і годнасьці працоўных грамадзян.

Мала таго, што існуе «суботнік» у нацыянальным маштабе, дык мясцовыя касікі патрабуюць і свайго суботніку ў іхні гонар. Папросту народ не пасьпявае адбівацца ад халяўшчыкаў.Калі так пойдзе і далей, то нашы кішэні не вытрымаюць «суботніх» апетытаў наменклатуры.

Агідна яшчэ вось што. Як быццам бы «дабраахвотныя» грошы працоўных зьнікаюць невядома дзе і невядома на якія мэты. Прынамсі шырокай публіцы куды яны дзяюцца- невядома.

Мала хто з працоўных адважыцца пратэставаць адкрыта супраць «суботніцкага» зьдзеку. Але мы раім: выказвайце сваё незадавальненне і раздражненне суботнікамі сваім калегам, суседзям,начальнікам лайце суботнікі і іхніх арганізатараў. Можна паспрабаваць прымяніць варажэю ці варажбіта супраць ініцыятараў усенароднага зьдзеку, гэта надзвычай эфектыўны сродак. Толькі не жаліцца ў прафсаюз! Ён прадажны.

Жадаем посьпехаў!

---

## ПРАКУКАРЭКАЎ- А ПАСЬЛЯ ХОЦЬ СОНЦА НЕ ЎЗЫХОДЗЬ.

Чалавек «жастачайшых трэбаваній», Аляксандр Рыгоравіч курыруе ўсё і гэта ведаюць усе ў Беларусі.Адным ён раздае дож, другім- рамантуе камбаі, трэцім праводзіць газ. От і да суседняй Рудобелкі дайшла чарга падключацца да газу. І тэрміны былі вызначаныя, і кіраўніка Беларусі ,-сапраўднага! жывога!- меліся прывезьці адмыслова для запальвання газавага агню.(Ён, як некалі феадалы ў пасьцелі маладой, заўжды мусіць быць першым.)

Усё было б файна, ды будаўнікі не пасьпелі да абазначанага Лукашэнкам тэрміну падвесьці газ- тэхналогія не дазваляла. Але раз кіраўнік Беларусі прывезены, то не марнаваць жа выпадак. А таму закапалі пад хату пару балонаў з газам, правялі трубу, кіраўнік у чыстай вопратцы запаліў фальшывы факел,-(Бач, піраман!)- прылюдна парадаваўся і паехаў сабе.

Працоўныя газавікі расказваюць, што такая фальшывая карцінка не першая і не апошняя.Багата ў якіх месцах беларускі дыктатар адкрываў неісную газавую магістраль, палячы газ з балону.Прывычка.

Урэшце, газ прыдзе. Але ці чэсна дзеля ўладнага капрызу паказваць фальш,у якую ніхто не верыць? Усё прытвараемся.

## ВАЛІНЫ СЬЛЁЗЫ

Беларускія сяляне дагэтуль марнеюць пад сталінскай лініяй. І сьведчаннем камуністычнага рабства- сапраўднай чумы дваццатага стагоддзя- ёсьць нядаўні выпадак у Дуброві.

Дайнека Валянціна, калгасная работніца, атрымала 25 сотак зямлі пад бульбу. І вось калі пачалі вывозіць гной, ёй ніяк не вывозілі. Валянціна не раз хадзіла на панс.., даруйце, калгасны двор, каб яе запісалі ў сьпіс на вывызку. Кожын раз яе запісвалі, але гной з месца не кратаўся.

Гэта і прывяло жанчыну да адчаю і горкіх сьлёз.

Тым болей, што жыццёвыя абставіны ў яе зараз складаныя- хворая маці, якой трэба сталы догляд. Валя горка плакала, жалячыся на вуліцы на бессардэчнасьць начальства.

Сьлёзы Валі пачула радыё «Свабода» і нават распавяло пра гэта.

Урэшце, гной Валі вывезьлі. Але што ж казалі суседкі пра гэта?

«Не трэба было Валі жаліцца, як рэвізія прыязджала ў Дуброву. Вось за гэта яе і прыціскаюць начальнікі.» «Нечага Валі жаліцца: ёй вывезьлі гной разам з фермаўскімі работнікамі.»

Зьдзіўляе і не зьдзіўляе поўная адсутнасьць спагады да беднай удавы, на месцы якой можа апынуцца кожны. Скажыце, плакальшчыкі па Савецкім Саюзе: Дзе ў Еўропе удовы плачуць пра невывены гной?

Эндэмічны савецка-расейскі камунізм не сканаў, а працягвае катаваць усе пласты беларускага грамадзтва: хай сабе пасьпяховы гандляр ці бедная вясковая ўдава.

---

## МІЗАРНЕЕ

Чым болей часу мінае, тым болей ірве пуп прапаганда дзеля рэанімацыі 9 траўня.

Старэйшыя людзі памятаюць, што гэтае «сьвята» зьявілася недзе ў 60х гадох мінулага стагоддзя і расквітнела ў апошняй ягонай чвэрці.

СССР і хаўрусьнікі адужалі Гітлера і ягоную сатанінскую зграю і пакаралі яе. Як жа аддзячыла савецкая ўлась народу за ягоную беспрыкладную працу і ахвяры?

Наменклатурны клас украў у народа перамогу,зусім абнаглеў і кінуў народ на новую непасільную працу і ў новыя геапалітычныя войны.За трыумфальна-пераможным тропаскам хавалася мізэрнае жыццё, дэфіцыты, нястача, бяспраўе, зьдзек.

Сёлета ўлада з рук начальніцы ідэалогіі дала ўдовам ветэранаў пляшку гарэлкі і кавалак каўбасы.

Прыгнаныя школьнікі ды аматаркі паслухаць пра «больш за дваццаць мільёнаў савецкіх людзей», што загінулі пад час вайны папрысутнічалі ля агульнай вайсковай магілы ў сярэдзіне Дубровы.Люду было меней за мінулыя гады. Ёсьць цікавейшыя шыя заняткі...Часта тыя, што топчуцца ля салдацкіх магіл разважаюць: «А мо лепей было б, калі б выйграў Гітлер?

Дурасьць нейкая. Выйграць павінны беларусы! А насамрэч мярзотніка Гітлера зьмяніў гэткі ж мярзотнік Сталін.

---

## НІЯКАЙ АТАМНАЙ СТАНЦЫІ ТУТ

Загнаны маскалямі ў кут уласнай сьляпой энергетычнай палітыкаю беларускі рэжым спрабуе вырвацца з маскальскага дыктату праз будоўлю атамнай станцыі

Але сьмешнае ў тым, што будаваць станцыю хочуць дaручыць тым самым маскалям па маскоўскаму праекту, а, значыцца, пад маскоўскае паліва.

Сёння мангола-татарскі «славянскі» «брат» дыктуе цану на газ, заўтра ён пачне каназіцца з уранавым палівам. Так што аніякай адчэпкі ад маскалёў не будзе. Другое пярэчанне: маскалі вельмі «якасна» будуюць- Чарнобыль навідавоку.Трэцяе пярэчанне: пры цяперашнім псівасавецкім рэжыме будаўнікоў будуць папіхаць у задніцу, каб што-небудзь як- небудзь збудаваць да якога-небудзь савецкага сьвята. Такім чынам існуе высокая верагоднасьць , што хочучы як найлепей зробяць як у Чарнобылі.

Вось чаму:

**АНІЯКІХ АТАМНЫХ СТАНЦЫЙ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ПРЫ ЕТЫМ РЭЖЫМЕ!**

## АДДЗЯЧЫЎ

«Я адплаціў народу чым моц мая магла», так мог бы заявіць кіраўнік Беларусі Рыгоравіч, калі ягоныя чыноўнікі фактычна ліквідавалі фінансаванае прафсаюзамі-хай сабе і кішэннымі-практычна бясплатнае лячэнне і адпачынак у прафсаюзных санаторыях. Дарэчы, слова санаторый і азначае па-нашаму «месца лячэння» Але верны свайму лозунгу «народ павінен за ўсё плаціць»- а ён сам?!- Лукашэнка ліквідаваў для працоўных гэтую значную паслугу. Небагатка людзей, што цікавяцца, ведаюць, што ў санаторыях вельмі моцна ўрэзана медычная частка адпачынку і што прафсаюзы вяла, на словах, пратэставалі супраць гэтага.

Вось такая аддзяка ад Рыгоравіча за вялічэзныя працэнты галасоў, якія ён атрымаў ад народу на выбарах.

І гэта не апошняя, бо цяперака жанчыны з малым дзіцём мецьмуць дапамогі ажно 60 даляраў- 130.000 рублёў.Гэта нават не спажывецкі кошык. А між тым дзеці- істоты дарагія. Ці ж не пературворыцца дэмаграфічная праграма ў вершык Кандрата Крапівы «Гітлер Марце пагражае чаму Марта не раджае»? Пачуўшы пра такую шчодрасьць жанкі кажуць: «Хай сам і раджае».

## ДЗЯРЖАЎНЫ АНАНІЗМ.

Як важную дзяржаўную дзейнасьць падала «Савецкая Б.» зборышча адпетых рэакцыянераў пад назовам «Славянскі сабор». Пэўне гэта кшталт славяна-масонскай змовы супраць беларусаў ды украінцаў, бо расейцы не славяне, а болей за пераліначаных славян,па-іхняму- наагул, на сьвеце няма. Канешне, хто не прагне ў маскальска-расейскае імперыялістычнае ярмо- той не славянін. Унь як сіганулі ад Масквы прэч усе славяне і неславяне, калі нагода здарылася.

А як меркаваць, дык той «славянскі сабор» нішто іншае,а мантачанне дзяржаўных грошай на дзяржаўны ананізм. Селі, выпілі, запелі...

## ЭТНАЦЫД.

Працягваючы сваю лінію на вынішчэнне беларускай нацыі і нашай нацыянальнай ідыёсінкразіі акупацыйны рэжым вырашыў зьнішчыць «Саюз Беларускіх Пісьменнікаў». Мала таго, што прагны рэжым адабраў ад пісьменнікаў іхні, падораны Машэравым, дом, забірае бібліятэку-так, бібліятэку!-, дык цяперака наогул хочуць іх зжыць з сьвету.

Калі наша сапрэлае ад саветчыны грамадзтва маўчыць, то гэта азначае, што яно згодна на харакіры дзеля дыктатара.

## КАРАНЦІН ЯК АД ЧУМЫ.

Калі прэм"ер Сяргей Сідорскі вырашыў наведаць кубінскага дыктатара Фідэля Кастра Рус то, Ірландыя, дзе робіць прамежкавую пасадку самалёт, папярэдзіла, што не дазволіць выйсьці з самалёту некалькім чыноўнікам. Давялося ім застацца дома.Далей, Канада папярэдзіла, што не дасьць права сесьці беларускаму самалёту на сваёй тэрыторыі. (Беларускія паліцыянты арыштавалі былі і пасадзілі ні за што канадыйскага журналіста). Давялося самалёту з Кубы ляцець на Мадэйру і там дазапраўляцца. Шкада што не на в. Сьвятой Алёны. Тамака ім самае мейсца.

## НАВЕДАЎ МОГІЛКІ.

Павятовы стараста, сп. Мікалай Чырва,наведаў могілкі ў в. Дуброва. Начальскі візіт да нябожчыкаў- гэта няблага. Але чаму сп. Мікалай Чырва не зазірнуў у нашую зьнявечаную лазьню? Ведае ж, што дуброўцам няма дзе мыцца,абяцаў жа не раз памагчы, але... Хай наўругае возьме з сабою нам дынаміту, узарвём яе нахрэн, каб не муліла вочы. А зь нябожчыкамі, вядома,прашчэй...

Вядомы дробны рэцыдывіст Аляксандр С. пакраў у сп. Вазьнюка курэй. Быў выкрыты міліцыянтамі. Бедныя міліцыянты, няма ім угавання з-за нізкай кваліфікацыі зламысьнікаў.

Раптоўна пайшоў ад нас і сваіх дзяцей
**Русіновіч Мікалай Канстанцінаў.**
Пры ім спраўна рабіла вадаправодная гаспадарка. Спачуваем удаве і дочкам.
Хай яму зямля будзе мяккай

Друкарня імя І. Масьціцкага. 100 ас.